# Толькі РАЗАМ

лістапад - снежань 2011 №8 (13)



Інфармацыйна-культурніцкае выданне Гомельскага філіяла ТБМ. Заснаванае ў жніўні 2010 г.



# "ТАЛАЦЭ" - 25 ГАДОЎ

3 снежня Гомельская моладзевая краязнаўчая грамадская арганізацыя «Талака» святкавала сваё 25-годдзе. Святочная імпрэза адбылася ў канферэнц-залі гатэля «Турыст». Дзясяткі адраджэнцаў прайшлі праз шэрагі арганізацыі за 25 гадоў. Тацццяна Сапач (славутая паэтка, якой няма сёння з намі), ейны муж Сяргей Дубавец (першы рэдактар адноўленай «Нашай нівы»), Зміцер Сасноўскі (заснавальнік «Старога Ольсы»).

З нядаўняга часу старшынёю ў арганізацыі Яўген Меркіс – выпускнік гістфака БДУ. Сёння «Талака» адрадзіла амаль усе абрадавыя святы Гомельскага рэгіёну: «Каляды», «Гуканне вясны», «Купалле», «Жаніцьба коміна», «Пахаванне стралы», прымае ўдзел у святкаванні «Юр'я» і «Русалля», ладзіць бясконцыя вячоркі з нагоды і без, традыцыйныя танцы пад дуду, апошнім часам пад кіраўніцтвам Ларысы Шчыраковай зняты некалькі фільмаў («Гомель Станіслава Шабунеўскага», фільм пра Пятра Карповіча і фільм пра Палуту Бадунову), працуе сайт Nashkraj.info.

Гомельская філія ТБМ далучаецца да віншаванняў і зычыць плёну ў справе беларускага Адраджэння!

Яўген Якавенка

На здымку: сцэнка з п'есы «П.С.Х.» (Пільнуй сваю хату) Леапольда Родзевіча ў выкананні талакоўцаў.

## слова ад рэдакцыі

Добры дзень, паважаныя чытачы! Скончыўся 2011 г. – год Вогненнага Вожыка ў беларускім календары. Год быў не проста вогненны, а часам пякельны – так круціла і біла беларусаў жыццё. Чаго тады чакаць ад года Арэхавай Вавёркі? Але не будзем рабіць кепскіх прагнозаў. Спадзяемся на лепшае! "Перамен патрабуюць нашыя сэрцы", - гучала ўлетку лейтматывам гэтая песня, і таму, улічваючы вашыя пажаданні, мы вырашылі крыху змяніць "Толькі разам". Так, змены будуць, таму чакайце наступнага нумару, які павінны выйсці ў пачатку сакавіка. Спадзяёмся, ён прыйдзецца вам да спадобы.

Віншуем усіх з Раством і Новым годам! Няхай спраўдзяцца ўсе вашыя жаданні і будзе болей вясёлых, сонечных дзён у жыцці.
Будзьма толькі разам!!!



# Водгалас усцешанай радасці

*Як непрыкметна і хутка ляціць час!*
*Здаецца, учора тое было…*

Кожным з нас, каму неабыякавы быў лёс роднага слова і лёс Айчыны, апанавала тады ўзнёслае пачуццё адчування годнасці і шчымлівай радасці, што, урэшце рэшт, мы дамагліся самастойнасці і незалежнасці, што ў гэтых варунках мы не пашкадуем сіл і здароўя для таго, каб наша родная Беларусь была роўнай сярод народаў свету. А разам з тым мы ўзнясем на нябесныя вяршыні падоранае Богам наша галоўнае багацце – нашу мілую і мілагучную мову…

Мы тады, на стыку 80-90-х гадоў, адчулі сябе вольнымі людзьмі. Бо маглі свабодна гаварыць, збірацца на цікавыя сходы, выказваць свае думкі і прапановы, як нам увайсці найлепш у заўтрашні дзень, як адрынуць ад сябе камуністычнае мінулае з яго хлуслівай ідэалогіяй, атэізмам, духоўным жабрацтвам і антымаральным кодэксам будаўніка камунізму…

І тады ж уведалі, што мы маем святыя сімвалы – Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг, найбагацейшую сваю гісторыю, слынных людзей мінуўшчыны. І першым на чале той калоны занепакоеных людзей стаў Зянон Пазняк, прынёсшы разам са сваімі сябрамі і паплечнікамі на паседжанне Вярхоўнага Савета бел-чырвона-белы штандар. Ім быў створаны БНФ – народны фронт, які абвясціў сябе абаронцам і мовы, і незалежнасці.

Адначасова ствараецца грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" – добраахвотная непалітычная арганізацыя, у якой аб'ядналіся прадстаўнікі беларускай нацыянальнай эліты для таго, каб забяспечыць рэальны дзяржаўны статус мовы карэннага этнасу Беларусі. І дзейнасць яе была скіравана на забеспячэнне правоў беларускамоўных грамадзян вольна карыстацца сваёй роднай мовай. Гэтая структура была зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі як некамерцыйная грамадская арганізацыя.

Тады ж, як было створана ТБМ, з 1989 па 1997 гады кіраваў ім Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч. Яго дзейнасць і тытанічную працу на чале ТБМ і ў якасці старшыні Камісіі Вярхоўнага Савета XII склікання па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны нельга ацаніць ніякімі меркамі. Гэта быў асноўны падмурак, азімут па вяртанні роднай мовы ў штодзённае карыстанне, у школы і ВНУ, у асяроддзе чыноўнікаў і ўладных структураў.

У Мінску адкрываюцца беларускія класы і школы. Беларускамоўная


першы старшыня ТБМ Ніл Гілевіч

адукацыя набыла элітарны статус. Беларуская мова пакрысе станавілася прэстыжнай, а яе носьбіт вызначаўся сваёй адукаванасцю. На роднай мове загаварылі вучні і студэнты, чыноўнікі і вайскоўцы, дзеці ў дзіцячых садках…

Тады да дзейнасці ТБМ з вялікай ахвотай далучыліся Максім Танк і Барыс Сачанка, Фёдар Янкоўскі і Іван Шамякін. Неацэнны ўклад у яе дзейнасць зрабілі Васіль Зуёнак і Васіль Быкаў, Янка Брыль і Анатоль Бутэвіч, Зянон Пазняк і Юры Хадыка, Алег Лойка і Адам Мальдзіс, Анатоль Клышка і Вячаслаў Адамчык…

Тое добраўплыўнае рэха даляцела і да Гомельшчыны. На той час загадчыкам аддзела адукацыі гарвыканкама працаваў Мікола Засінец. Гэта яго намаганнямі адчыняліся беларускія класы і школы, выхавацелькі дзіцячых садочкаў вялі свае праграмы на роднай мовы. Вучылі

→

песні і танцы, вадзілі хараводы, ладзілі дзіцячыя гульні.

Было адведзена дзесяць гадоў, каб беларусы навучыліся і асвоілі сваю родную мову. Пераводзілі справаводства на рэйкі беларушчыны, выступалі з дакладамі і прамовамі… Як мы тады верылі, што непрыкметна праляцяць тыя дзесяць гадоў, і наша радзіма стане сапраўды беларускай. Нават тады не ўстрымаўся міністр адукацыі Стражаў і паабяцаў, што прэзідэнт Беларусі праз паўгады загаворыць на мове таго народа, якім ён кіруе.

А потым умяшаўся нейкі д’ябал, і прапанавана было ўвесці двухмоўе. Дзве дзяржаўныя мовы – беларуская ды расейская. Ды злучок “альбо” нарабіў такой шкоды, што і яшчэ не прайшла тая горыч. Значылася яно так – альбо пісаць па-расейску, альбо па-беларуску. А раз “ці так, ці так”, то расейская ўскараскалася на плечы тытульнай мове і яшчэ бізуном пачала паганяць…

Ніла Гілевіча змяняе на пасадзе старшыні ТБМ слынны паэт Генадзь Бураўкін. Гэта быў самы неспрыяльны і цяжкі час для Беларусі – 1997-1999 гады. Маючы вялікі вопыт дыпламатычнай працы (з’яўляўся Надзвычайным і Паўнамоцным паслом Беларусі пры ААН) і арганізацыйнай працы, (калі ён быў старшынём Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні), паэт цвёрда трымаў стырно ў сваіх руках. Таму Таварыства беларускай мовы здолела не толькі выстаяць, але набыць сілу і аўтарытэт, у яго шэрагі ўліліся юнакі і дзяўчаты, людзі старэйшага пакалення…

А з 1999 года і па сёння Грамадскую арганізацыю “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” узначальвае кандыдат гістарычных навук, нястомны грамадскі дзеяч Беларусі Алег Трусаў…

Шмат цікавых мерапрыемстваў адбывалася на Гомельшчыне.

Актыўна працавалі Жыткавіцкая і Мазырская, Светлагорская і Лельчыцкая, іншыя раённыя арганізацыі ТБМ.

Былі створаны першасныя арганізацыі ТБМ у Гомельскім абласным упраўленні адукацыі, у гарадскім аддзеле адукацыі, у Гарадской Цэнтралізаванай бібліятэцы імя Герцэна, у Гомельскім райаддзеле адукацыі…

Неспрыяльны час наклаў свой адмоўны адбітак на дзейнасць ТБМ як горада Гомеля, так і вобласці. Але ў абласное і гарадское кіраўніцтва абраны маладыя, і яны ўжо шмат правялі цікавых імпрэз. Больш падрабязна пра тое раскажуць яны самі.

Экс-старшыня Гомельскай абласной грамадскай арганізацыі “Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны”

пісьменнік **Анатоль Бароўскі**

# Пяты нумар часопіса “Верасень”

Выйшаў з друку пяты нумар літаратурна-мастацкага часопіса «Верасень». Як заўсёды, у нумары багата прадстаўлены раздзел «Паэзія». Тут друкуюцца вершы Марылі Шлык, Валера Прычынца, Марысі Суша, Глеба Лабадзенкі, Надзеі Філон, Насты Грышчук, Таццяны Мацюхінай. Паэтычным майстэрствам з маладымі творцамі дзеліцца Генадзь Бураўкін. Проза прадстаўленая творамі Марыны Яўсейчык, Сяргея Прывалава, Ганны Старыковіч, Сяргея Белаяра, Паліны Качатковай, Алеся Наварыча.

Пра што мараць жанчыны, можна даведацца, прачытаўшы эратычную фантазію маладога драматурга Мюра Фарыдовіча. «Пярсцёнак песні» — пад такой назвай у нумары друкуецца паэтычная нізка Багдана-Ігара Антоныча, вершы якога з украінскай мовы пераклаў Сяргей Законнікаў. Крытыка прадстаўленая вострапалемічным артыкулам Рыгора Сітніцы «Развагі нязгоднага быць хобітам…»

У гэтым жа раздзеле можна прачытаць гутарку Асі Паплаўскай з кіраўнікам Беларускай інтэрнэтбібліятэкі **Kamunikat.org** Яраславам Іванюком, а таксама «неспарадкаваныя абрыўкі думання» Ніла Гілевіча, фацэцыі Уладзіміра Сіўчыкава, падарожныя нататкі Раісы Крывальцэвіч. Анатоль Трафімчык разважае над зместам кнігі Таццяны Сівец «Таму, хто знойдзе». Ганна Новік робіць агляд гомельскага самвыдату. Пра сакрэты творчасці з музыкамі папулярных гуртоў «PANaNieba» і «ZIGZAG» размаўляе Альдона Мартыненка. І ўжо традыцыйна заканчваецца нумар «CD-калекцыяй» вядомага музычнага аналітыка Вітаўта Мартыненкі.

Пытайце «Верасень» №5 на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13) і ў Акадэмкнізе. Дасылайце свае творы ў часопіс на электронны адрас: verasenchas@gmail.com



# У зачараваным царстве твораў паэта

Максім Багдановіч – сапраўдны пясняр беларускай зямлі, сын беларускага народа, шчыры патрыёт і самаахвярны мастак беларускага слова. На жаль, лёс не даў яму доўгага жыцця, але за свае дваццаць чатыры гады Максім Багдановіч паспеў зрабіць столькі, што яго імя назаўжды застанецца ў памяці прыхільнікаў беларускай паэзіі.

Творчасць Максіма Багдановіча — гэта цэлае жыццё. У зборніку "Вянок" выявіліся мары, спадзяванні паэта, шчырыя прызнанні ў любові да роднай зямлі. Значнае месца ў яго творчасці займае інтымная лірыка. Каханне — пачуццё бязмернай павагі да жанчыны, выражэнне гуманнасці і высакароднасці чалавека, крыніца яго лепшых імкненняў. У творах М. Багдановіча гэта пачуццё сагрэта асаблівай цеплынёй, шчырасцю. Толькі ўслухайцеся у гэтыя пяшчотныя, сумныя і такія светлыя радкі:

*Зорка Венера ўзышла над зямлёю,*
*Светлыя згадкі з сабой прывяла.*
*Помніш, калі я спаткаўся з табою,*
*Зорка Венера ўзышла.*

(«Зорка Венера ўзышла над зямлёю...»)




Інтымная лірыка Максіма Багдановіча мае адценне журбы, нібы паэт сумуе па згубленым у юнацтве каханні:

*Усё у пылу. І стала мне*
*Так сумна, сумна ў цішыне.*
*Я у сад пайшоў. Усё глуха, дзіка,*
*Усё травою зарасло.*
*Няма таго, што раньш было,*
*І толькі надпіс «Вераніка»,*
*На ліпе ўрэзаны ў кары,*
*Казаў вачам аб той пары.*
(“Вераніка”)

Але лічыць Максіма Багдановіча толькі паэтам кахання было б памылкай, бо ў яго творчасці важнае месца займаюць і філасофскія вершы, і грамадзянская лірыка, і пейзажная. Як сцвярджальна, як абнадзейваюча гучаць радкі:

*Беларусь, твой народ дачакаецца*
*Залацістага, яснага дня.*
*Паглядзі, як усход разгараецца,*
*Колькі ў хмарках залётных агня…*
(“Беларусь, твой народ дачакаецца...”)

У філасофскай лірыцы паэт нібы знаходзіць выйсце сваім думкам. Можна лёгка зразумець, што ён хоча данесці да нас, якія пачуцці выклікаюць у яго тыя ці іншыя з’явы, які сэнс набываюць яны ў розуме чалавека:

*Калісь глядзеў на сонца я,*
*Мне сонца асляпіла вочы.*
*Ды што мне цемень вечнай ночы,*
*Калісь глядзеў на сонца я.*
*Няхай усе з мяне рагочуць.*
*Адповедзь вось для іх мая:*
*Калісь глядзеў на сонца я,*
*Мне сонца асляпіла вочы.*
(Трыялет «Калісь глядзеў на сонца я»)

Аднак амаль ва ўсіх філасофскіх, інтымных, грамадзянскіх вершах Максіма Багдановіча можна заўважыць элементы пейзажнай лірыкі.



Паэт у сваіх творах важнае месца адводзіў менавіта прыродзе : зорнаму небу (“Зорка Венера”) ці яркаму сонцу (“Калісь глядзеў на сонца я”, “Напілося сонца са крыніц сцюдзёных”), шпаркай крыніцы (“Замёрзла ноччу шпаркая крыніца”) ці спакойнаму саду (“У старым садзе”), вечару - летняму, ціхаму (“Выйшаў з хаты. Ціха спіць надворак…”; “Над возерам”; “Цёплы вечар, ціхі вецер, свежы стог”) ці зімняму, марознаму і жваваму (“Зімой”; “Завіруха”). Гэты спіс можна працягваць вельмі доўга, бо кожны верш Максіма Багдановіча выклікае асаблівыя, непаўторныя ўражанні. Кожны з іх гучыць у сэрцы, западае ў душу. Яны нечым нагадваюць музыку. Напрыклад :

*Па-над белым пухам вішняў,*
*Быццам сіні аганёк,*
*Б’ецца, ўецца шпаркі, лёгкі*
*Сінякрылы матылёк.*
(“Па-над белым пухам вішняў…”)

Свет паэзіі Максіма Багдановіча сапраўды незвычайны, чароўны. Ён прываблівае, захапляе, і ўжо немагчыма ўявіць сябе без такіх родных і прыгожых слоў, з якіх складаюцца на паперы светлыя і рамантычныя вершы. У гэтых вершах кожны радок – цытата, кожны сказ – ісціна.

**Маша Бадзей**

# Вандроўка да магілы Максіма Багдановіча

*Кожную ночку*
*На зорку дзівіцца*
*Буду ў далёкім краю…*
М.Багдановіч.



Ялта. Пачатак ХХ ст.

Якой упершыню ўбачыў Ялту паэт?. Старая яна мне падалася значна прыгажэй за сучасную. Тут ёсць і містыка, і рамантыка, і натхненне… І як паўсюль, але неяк незвычайна адчуваецца смерць, закаханая ў гэтае свята жыцця…

Надвор'е з раніцы пахмурнае. Папярэднія дні свяціла сонейка, а сёння дождж. Але менавіта гэты стан прыроды натхняе на рамантычныя думкі. У гэты дзень я вырашыла здзейсніць вандроўку да магілы Максіма Багдановіча.

Дабірацца вырашыла напалову пешшу, напалову ехаць. Толькі вось куды – пытанне пакідалася ў паветры. Выведала так: трэба крочыць да прыпынку "Спартак". Спачатку вырашыла пешшу па ўзбярэжжы.

Прыгожа… Шмат розных крам, рэстараны і кафэ, жывыя спевы і цікавыя людзі-артысты. Не даходзячы да цэнтральнага гарадскога пляжа – крок управа – перад вачыма вуліца з мастакамі. З аднаго боку – гатовыя малюнкі і жывапіс на продаж, з другога – вір людзей… "О, горада чароўныя прынады!" Мастакоў сёння няшмат, дождж перашкаджае, але самыя ўпартыя малююць партрэты турыстаў, седзячы пад вялікімі парасонамі ( на жаль, свой я пакінула ў гасцініцы). Мокра, але крочым наперад!

Дарога невялічкая, шырынёй з легкавы аўтамабіль. Вакол прыгожа: менавіта тут ужо пачала адчувацца восень, да параўнання з сонечным узбярэжжам Ялты – парыжэлае лісце, мокрая зямля, сухое веццэ.

Так і знайшла. Трэба быць уважлівым, таму што перад магілай М. Багдановіча стаіць велізарны валун – помнік іншаму чалавеку. Ён як заслона, і на першы позірк патрэбнай магілкі не бачна.

Апошняе месца спачыну Максіма Багдановіча зусім простае. Помнік з паўгруддзем – партрэтам: да грудзёў прыціснуты зборнік "Вянок" – бліжэй да сэрца, позірк скіраваны ў нябёсы, невялічкі ланцуговы замёт вакол хаўтурнага каменя і камень з гравіроўкай побач, на ім радкі з верша "Зорка Венера". Навівае спакой…

Дождж скончыўся. Дзіва! Ішоў моцны дождж– і скончыўся… тут, калі я прыйшла. Гэтае таямнічае надвор'е. Аднак яно мяне радуе, натхняе.. Зусім прамокла, да апошняй ніткі.

Крочу назад, дамоў – там мяне чакаюць. Павольна, прыступкі адна за адной. Заварожанае вялікім сэрцам месца…

Ці доўга ехаць? – Не. Ці доўга шукаць? – Не!

Раю абавязкова (хоць адзіны раз!) здзейсніць вандроўку да гэтага цудоўнага месца і адчуць настрой прыроды, калі марскі вецер дакранаецца да твайго твара так, як неяк даўно ён дакранаўся да твара Максіма Багдановіча, паглядзець на гэтае мора аднымі з ім вачыма і ўявіць сабе яго думкі і мары на той час…

Адчуць асалоду жыцця ад невялікага адведзенага тэрміну. Наколькі яно можа быць поўным і цудоўным унутры, калі ведаеш, што знешне Адзінота ходзіць усцяж. Ці, можа, яна і ёсць тая жанчына, пра якую марыць сэрца… Тут, зусім побач.

**Саша Падкапаева**

Ялта. 9 верасня 2011г.



# Глеб Лабадзенка: “Гэта адзіная магчымасць заставацца самім сабой”



**- Ваша дзейнасць, як вядома, вельмі разнастайная. Ці не замінаюць адныя Вашы інтарэсы іншым захапленням?**

-Яны паміж сабой не перасякаюцца, гэтыя накірункі. Калі я выступаю як паэт, я ніколі не кажу, што я журналіст.

**- У якім выданні Вы зараз працуеце?**

- Зараз я працую як вольны журналіст. Раней працаваў у “Звяздзе” два гады. Праца, канешне, патрабавала нейкага самакантролю, ды ўвогуле ў тым калектыве я пачуваўся неяк самотна, хоць з боку рэдактара да мяне нейкіх забаронаў ды ціску не было.

**- Калі і чаму Вы зацікавіліся гісторыяй Радзівілаў?**

- Знаёмства з Радзівіламі пачалося з таго, што я напісаў пару артыкулаў пра Нясвіжскі палац ( увогуле я цікаўлюся гісторыяй). Пашчасціла пабачыцца з прадстаўніцай рода Радзівіл пані Эльжбетай, ёй зараз 94 гады, дагэтуль апошні раз была ў Беларусі ў 1993 г. па запрашэнні А.Мальдзіса. Захаваць яе ўспаміны важна, бо яна памятае менавіта той Нясвіжскі палац, які быў да вайны. А тое, што зараз робяць з радавым гняздом Радзівілаў, рэстаўрацыяй назваць нельга – гэта злачынства, навабуд. Успаміны пані Эльжбеты вельмі каштоўныя, бо пра гэта ніхто болей ужо не распавядзе. Яна ўзгадвала, як у дзяцінстве ехалі яны з сям’ёй у Давыд-Гарадок 16 гадзін на машыне, недзе застралі, яе пераносілі на руках... Зараз да Давыд-Гарадка з Нясвіжу можна даехаць за пару гадзін. Узгадвае якія былі інтэр’еры ў палацы, дзе якая мэбля стаяла…

**- Вядома, што яшчэ за савецкім часам былі пашкоджаны саркафагі ў Нясвіжскім фарным касцёле...**

- Так, пасля вайны, калі памёр Сталін, у Нясвіж прыехалі навукоўцы, якія ўскрылі некалькі саркафагаў. Найперш самыя старыя, бо шукалі сакрэт бальзамавання, каб захаваць цела самага вялікага злодзея XX стагоддзя.

**- Калі пабачыць свет Ваша кніга - збор унікальных фатаздымкаў Радзівілаў?**

- Гэта кніга павінна была выйсці, ужо быў падрыхтаваны макет, але ўсе планы перакрэсліў крызіс. Большасць фатаздымкаў, што сабрана ў гэтай кнізе, з’яўляюцца ўнікальнымі, то бок нідзе не друкаваліся, і не ўзгадваліся. Трэба было высветліць, хто на гэтых фатаздымках знаходзіцца, бо падпісаны адзінкі з іх. Такая вось праца была зроблена.

**- Чаму адзін з Вашых праектаў - музычны гурт JabClub - раптоўна змяніў назву?**

- Праца з Handmade - гэта не праца, а асалода. Увогуле, Яўген Валошын спявае так, як я і сам бы хацеў, калі ўзяў бы ў рукі гітару. Чаму JabClub стаў называцца Handmade? Бо з’явіліся новыя людзі, той жа Андрэй Маркуц, і атрымаўся ўжо новы гурт. А назву я даўно раіў змяніць, бо некаторыя яе чыталі як “Ябклаб”.

**- Як Вам удалося перакласці песню А.Рыбака “Небасхіл Еўропы” на беларускую мову і якія праблемы з гэтым звязаныя?**

- Гэта было запрашэнне ад Сяргея Будкіна. Я ўжо ўдзельнічаў у праекце “Тузін Гітоў. Перазагрузка.” А непрыемная гісторыя, якая атрымалася - тут, канешне, крыху вінаваты, бо калі атрымаў экземпляр песні , які не быў прызначаны для публічнага агалошвання, не ўстрымаўся і даў паслухаць сябрам на адной закрытай вечарынцы, а пасля гэта гісторыя была надрукавана ў “Камсамольскай праўдзе”, хоць журналістка, што напісала яе, не павінна была рабіць такога паводле журналісцкай этыкі. Карацей, пасварыліся мы даволі добра.

**- Што для Вас ёсць вядзенне блога?**

- Блог - гэта адзіная магчымасць заставацца самім сабой, не скурвіцца.

**- Універсітэт, журналісцкія курсы, семінары... Дзе лепей можна навучыцца журналісцкаму майстэрству?**

- Выкладання журналістыкі як такога ў ВНУ няма. У БДУ даюць даволі добрую гуманітарную адукацыю, але на адным семінары можна даведацца болей, чым за год навучання ва ўніверсітэце. Увогуле, як можна навучыць журналістыцы? Журналіст павінен ведаць усё, і каб быць добрым журналістам, трэба пісаць, пісаць і пісаць. Я друкаваўся яшчэ да вучобы і падчас яе (добра, што яна не перашкаджала працаваць). Але вучыцца ўсё ж такі трэба, і прытым выдатна.

гутарыў **Максім Новік**

**Даведка**

*Глеб Лабадзенка.* Беларускі паэт і журналіст. Нарадзіўся ў Мінску. Скончыў Беларускі гуманітарны ліцэй імя Я.Коласа (2004), Інстытут журналістыкі БДУ (2009). У 2004—2008 годзе — карэспандэнт «Комсомольской правды в Беларуси». З мая 2009 па май 2011 года - спецыяльны карэспандэнт газеты «Звязда».У 2009 годзе арганізаваў прыезд у Беларусь нашчадкаў славутага роду князёў Радзівілаў. Аўтар больш як 1100 публікацыяў у беларускай і замежнай прэсе. Фота з **labadzenka.by.**

# Таямніца ўніверсітэцкага сквера

Вельмі часта, знаходзячыся ў розных месцах, людзі могуць нават не здагадвацца пра тое, якія таямніцы і загадкі хаваюць яны ў сабе. У дадзеным выпадку гаворка пойдзе пра ўніверсітэцкі сквер. Шматлікія факультэты нашай ВНУ праводзяць там свае заняткі па фізкультуры, але мала хто задумваўся пра тое, чаму нават у сонечны дзень у гэтым скверы пануе загадкавы прыцемак і цішыня.

Такім чынам, давайце звернемся да гісторыі і высветлім, што ж было раней на месцы нашага сквера і што такога незвычайнага ён у сабе ўтойвае.

Гісторыя месца, на якім размешчаны ўніверсітэцкі сквер: 1)Могілкі і каталіцкая царква; 2)Медыцынская ўстанова; 3)Мастацкая майстэрня; 4)Касцёл і студэнцкі сквер.

У XVII ст. на месцы сквера знаходзіўся касцёл, а побач з ім былі польскія могілкі. Невядома, калі менавіта была знесена гэта царква, але на пачатку 70-х гадоў XX ст. на яе месцы ўжо была нейкая медыцынская ўстанова. Гэтая ўстанова праіснавала нядоўга, і вельмі хутка тут паўстала мастацкая майстэрня. А прыканцы 1990-х гадоў быў пабудаваны каталіцкі касцёл.

“А што з могілкамі, пра які гаварылася напачатку?” - спытаеце вы. Я адкажу: “Гэта асобная гісторыя, якая змяшчае ў сабе мноства чутак і здагадак”.

Могілкі, пра якія мне вядома не так ужо і шмат (на жаль, яны былі знесены амаль паўстагоддзя назад), бяруць пачатак сваёй гісторыі з XVII ст. Да XIX ст. яны лічыліся праваслаўнымі, а пасля сталі польскімі. Магчыма, гэта звязана з геаграфічным размяшчэннем (побач з могілкамі знаходзіўся касцёл). З аповедаў старажылаў вядома, што тут былі пахаванні багатых палякаў і каталіцкіх святароў.

Да пачатку XX ст. на гэтых могілках практычна не засталося вольных месцаў, і ўсё ішло да таго, што іх у хуткім часе зачыняць.

Нельга не адзначыць той факт, што месца пахавання Ірыны Паскевіч (пад



псеўданімам "Руская" яна пераклала на французскую мову раман - эпапею Льва Мікалаевіча Талстога "Вайна і мір", атрымаўшы ад яго ж блаславенне) дагэтуль сапраўды невядома. Мясцовыя жыхары мяркуюць, што яна была пахавана менавіта на гэтых могілках.

Са слоў дацэнта кафедры рускай і сусветнай літаратуры Людмілы Леанідаўны Ермаковой, прыкладна ў 1967-1968 гадах гэтыя могілкі былі знесеныя. Зносілі іх проста дзіка, па-варварску. Пры ўборцы нават часам выкопвалі чалавечыя косткі і чарапы.

На месцы знішчаных могілак быў пасаджаны парк, які, дзякуючы яго геаграфічнай блізкасці з універсітэтам, зараз носіць назву "ўніверсітэцкі сквер".

**Дзмітры Разгон**

## Нам лістуюць



Даўно ўжо я чула пра людзей, якія ў паўсядзенным жыцці размаўляюць па-беларуску. Але, не ведаючы ніводнага з іх, успрымала гэта як нешта далекае і неверагоднае. Не ведаю, колькі разоў узнікала ў мяне жаданне далучыцца да беларускамоўнага насельніцтва краіны, але мае намаганні скончваліся на другой гадзіне трасянкі, якую я выдавала, дасканала не ведаючы мову.

Мне пашанцавала – у мяне былі добрыя выкладчыкі, у якіх атрымалася зацікавіць вучняў. Нярэдка я задумвалася пра моўнае пытанне ў нашай краіне, скардзілася на тое, што беларускі народ забыўся на сваю мову, але надышоў час не проста скардзіцца, а пачынаць нешта рабіць. Выпадкова ў інтэрнэце (віват высокім тэхналогіям!) знайшла звесткі пра гомельскую суполку ТБМ, якая ў той час арганізоўвала рэалкі і запрашала ўсіх зацікаўленых. Я рашуча вырашыла пазнаеміцца з гэтымі людзьмі. Рыхтавалася некалькі дзён: размаўляла па-беларуску і ўвесь час звярталася да слоўнікаў, але ўсё адно было трохі няёмка ісці да незнаёмых людзей, ды яшчэ не вельмі валодаючы мовай. Але, сустрэўшы гэтых людзей, я адчула сябе амаль што як дома. Нас успрынялі як сваіх, аднесліся з паразуменнем, і ніхто не моршчыў нос, калі я праз слова рабіла памылкі. Прыехаўшы дадому, я з парога збянтэжыла маці: “Цяпер я размаўляю па-беларуску!”.

Было цяжкавата першы час: маці, якая ніколі не вучыла беларускай мовы, не разумела некаторых слоў, але паколькі яна ведала ўкраінскую, мы хутка прызвычаіліся. Нягледзячы на тое, што ў школе я вучылася добра, шмат слоў даводзілася шукаць па слоўніках, спытваць у сяброў. Вельмі крыўдна было, калі, пачуўшы мяне, нехта пачынаў рагатаць ці раздражнёна запытваць: “Ты можешь разговаривать по-человечески?”. Але я ад свайго не адступалася, і зараз тыя, хто рагатаў, нават і не заўважаюць, што мы размаўляем на розных мовах, толькі зрэдку запытваюць пераклады некаторых слоў. Але ж былі і людзі, якія падтрымалі мяне адразу і нават хвалілі. Вельмі прыемна, калі людзі, якія не карыстаюцца беларускай мовай, намагаюцца размаўляць па-беларуску са мной, старанна шукаючы словы ў закутках памяці - хто больш паспяхова, хто менш, але я ніколі не буду смяяцца з іх намаганняў. Прыемна, калі кажуць, што беларуская мова вельмі прыгожа гучыць, і здзіўляюцца, як так у мяне атрымліваецца не задумвацца над словамі. У такія моманты я адчуваю, што наша грамадства не страчанае, яшчэ шмат неабыякавых людзей, якія шануюць сваю мову, гісторыю, сваю Радзіму.

Зразумела, трох месяцаў не хапіла, каб дасканала ўсё вывучыць, але я над гэтым працую. Шмат даюць мне беларускія часопісы, кнігі і, зразумела, ТБМ. У нашай гомельскай суполцы я сустрэла цудоўных людзей, якія мне вельмі дапамаглі зрабіць гэты крок. Я бачу гэтых людзей і веру, што за імі будучыня, веру, што калісьці ўсе беларусы будуць размаўляць на роднай мове, што мае дзеці пойдуць у беларускамоўную школу, а потым у беларускамоўны ўніверсітэт. Зразумела, нават пры тытанічных намаганнях на гэта пойдзе вельмі шмат часу (дый грошай, дарэчы), але калі мы хочам нешта змяніць, трэба пачынаць з сябе.

**Наталля Піскунова**



НАДЗЕЯ ФІЛОН

Нарадзілася 14 жніўня 1988 г. Скончыла УА “Гомельскі дзяржаўны педагагічны каледж ім. Л. С. Выгоцкага”. Кіраўнік студыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва”. Зараз вучыцца на 4- м курсе філалагічнага факультэту беларускай мовы ў ГДУ ім.Ф. Скарыны

* * *

Зімовы лес. Прыроды таямніца,
Сукупнасць прыгажосці і натхнення.
Тут хочацца душою з вечным зліцца
І не хапае слоў ад захаплення.

Блішчаць на сонцы мёрзлыя галінкі,
Ахутаныя снегам, нібы срэбрам.
А белыя ласкавыя сняжынкі
Пяшчотна абдымаюцца з паветрам.

* * *

Белы снег у паветры смугою –
Разгулялася моцна завея.
Вее вецер, і з ціхай тугою
Снег павольна кладзецца на веі.

Ён растаў – і празрыстаю кропляй
Пракаціўся так лёгка па твары,
І няўлоўным, няўпэўненым крокам
Аб забытых напоўніў мне марах,

Аб няздзейсненых мною жаданнях,
Спадзяваннях, пачуццях, падзеях,
Аб жыццёвых складаных пытаннях,
Аб дзяцінстве, юнацтва надзеях.

Белы снег у паветры смугою
І павольна кладзецца на веі.
Маё сэрца напоўніў тугою…
Закружыў у абдымках завеі.

* * *

Белая сняжынка на далоні
Хутка стала кропелькай вады
І, сагрэтая сардэчным промнем,
Знікла з царства снегу назаўжды.

Дык няхай жа пры сустрэчы з вамі
З чалавечых душ знікае лёд,
Каб нікому не нанесці раны
Сярод крыўд жыццёвых і нягод.



АЛЕСЬ СЬНЕГ

Журналіст, блогер, каардынатар кампаніі “Moladz.org” (ВОКА), сябра ТБМ. Навучаецца ў Баранавіцкім дзяржаўным універсітэце.

**Веру ў цябе**

Я не веру ў месяц, не веру ў паветра,
Не веру ў каханне, не веру ў лета,
Не веру ў сябе, не веру ў газеты,
Не веру ў свае светлыя мэты,
Я не спынюся ў сваёй барацьбе,
ТАК! Я веру ў цябе.

**Калекцыя тваіх аблокаў**

На пальцах стылёвы колер,
На далонях вада і адценні,
Разбавіць іх крыху болей
І дадаць ярка-белыя цені.

І на чорных вялікіх сценах
Малюеш аблокі ночы.
У гледачоў разрываюцца вены,
І не могуць схаваць яны вочы.

Ты свае творы збіраеш,
У храналагічным парадку,
Свой негатыў забіваеш,
Каб жыць у пазітыўным дастатку.

А я капірую фразы,
Якія ты прамаўляеш,
І дахаджу да экстазу,
Ад аблокаў, якія ствараеш.

Я гляджу ў тваe смелыя вочы
І планую зрабіць пару крокаў,
І скрасці хачу я ўночы
Калекцыю тваіх аблокаў.

**Для Рацыі**

Добры вечар, Нарру і Грацыё,
Я ўключаю Радыё Рацыю,
Загружаю ў скайпе вядомы ўсім чат,
Усеўся ў крэсла, няма шляху назад,
Дзевяць вечара, “Міксер” любімы,
Пачатак ужо хутка, мы лічым хвіліны,
І вось вядучы ўжо пачынае,
Хто ў чаце трындзіць, хто хіт замаўляе
"А гэтую песню вы шчэ не чулі!
Перадайце вітанне ў Гародню да Юлі".
Гучыць нейкі верш у стылі Шэкспіра,
"Адрасат віншавухі - Марына і Іра".
Нехта сур'ёзны, нехта як комік.
"Прывітанне атрымлівае Таня і Ромэк".
Рэкламная паўза, наліваю я соку,
Замаўляю ў Кірыла "Мутнае Вока",
Ляпіс, HAND MADE і AMAROKA,
Цяпер ад кампа не зраблю я ні крока,
Дарэчы, кожны вечар новая тэма,
Верш мае працяг, гэта ўжо паэма,
Паэма пра нашу любімую станцыю,
З прыгожай назвай "Радыё Рацыя".
Жыццё рэалізуецца з нашых з вамі сноў,
Праз чат знайшоў я многа сяброў,
"Радыё рацыя", "Міксер" музычны,
Цяпер кожны вечар мой не лаканічны.
Не, гэта не паэма, а проста інфармацыя.
Дзякую за ўсё ТАБЕ, РАДЫЁ РАЦЫЯ!
А чат працуе, пакуль ніхто не засне,
А далей "Сон Марыны" ў плэй-лісце.



ЯНІНА АСІПЦОВА

Вучаніца магілёўскай сярэдняй школы. Любіць вучыцца,чытаць,марыць і жадае яшчэ раз наведаць старажытны горад над Влтавай

***

Ад нараджэння ты аркуш папяровы,
І бацькі пішуць там нейкія словы.

Што дадуць на пачатку -
Тое ты захаваеш.
Што напішуць зранку -
Тое ты скарыстаеш.

Як паставяць там кропкі і коскі,
Так жыццё тваё пройдзе, запомні.

Што напішуць асадкай -
Не выдаліш гэта.
Як напішуць алоўкам -
Зменіш тое, што трэба.
Як пакінуць пустое -
Дык запоўніць ты мусіш.

А бывае, што ліст застаецца пусты.
Альбо ёсць там палова патрэбнага.
І задачу галоўную маеш ты –
Знайсці тое галоўнае.

Ты не спяшайся запоўніць той ліст.
Бо гэта важнае дзеянне.
Ты пазначай, але не пішы,
Тое, што можа быць зменена!

**Учорашні дзень**

Учорашні дзень не цікавіць нікога.
Учорашні дзень не патрэбны нікому.
Учорашні дзень ўжо не ўспомніць ніхто.
Учорашні дзень ёсць Учорашні дзень.
Учорашні дзень-гэта згаслыя мары .
Учорашні дзень-гэта зніклыя думкі.
Учорашні дзень- гэта пляма закату.
Учорашні дзень ёсць Учорашні дзень.
Учорашні дзень-гэта цяжкая праца.
Учорашні дзень-гэта сэрцабіццё.
Учорашні дзень-гэта рытмы пакуты.
Учорашні дзень ёсць Учорашні дзень.



ЛЮБОЎ ЛАЗАРЭНКА

Нарадзілася ў 1990 г. Першы верш напісала ў 7 класе. Любіць разважаць пра жыццёвыя перыпетыі, у асноўным любоўныя.

**Ужо не “мы”**

Калі мы пазабыліся на лёс?
Калі пайшлі мы рознымі дарогамі?
Усе словы, што нам вецер не данёс,
Зямля прынесла горкімі трывогамі.

Я так жадала – быць, кахаць і жыць!
І жадала жыць жыццём сапраўдным!
Каб не магла кахання я забыць,
Каб не магла казаць табе: няпраўда…

Каб ты ўсміхнуўся і казаў бы мне -
Якія мы прыгожыя, як разам.
Каб мы з табой ядналіся ў агне
І сталі нашы жыцці адным сказам…

Каб мы з табой прачнуліся ўдваіх,
І былі б мы шчаслівыя, як чэрці!
Каб мы дзяцей выхоўвалі сваіх
І былі б разам – хоць да смерці…

Я ўсё рабіла… Ты, магчыма, ўсё,
Але ж чамусьці не склаліся пазлы…
І ў кожнага асобнае жыццё.
Мой родны, ўжо не быць нам разам.

Тускнеюць, быццам хто сцірае іх,
Карціны нашых “сёння” і “гадамі”,
І ўжо мы не прачнемся удваіх,
І пойдзем процілеглымі бакамі.

Я не хацела, выбачай мяне!
Я ведала – між намі засталося…
Благі кавалак лёсу хай міне…
А мы… Ужо не “мы”.
Як адбылося…

**Бывай**

Што мы робім? Скажы мне, скажы!
Не смяемся мы ранкам, не снім уначы.

Кожны дзень адной думкай асвечана ціх:
Што ўжо нам з табою не быць удваіх.

Хто з нас першыя крокі зробіць ў цішыні?
Хто адкажа? Хто будзе ў ільдзе і ў агні?

Так – камусьці прыдзецца праз адчай
І апошняга разу сказаць: “выбачай”…

І таму так балюча ў прадвесці таго…
І таму мы ўсе церпім адзін аднаго…

Так балюча, каханы… Але выбачай.
Так балюча і блага… І ўсё-ткі – бывай.

Я апошняга разу цябе абдыму…
Вось і ўсё. Я сыходжу.
Бывай, mon amour.



АЛЕСЬ ПЛОТКА

Нарадзіўся на Піліпаўку за савецкім часам. Праз гэта заўжды шукае справядлівасці і цяпла.

**Святы Мікалай**

Пан Святы Мікалай
Хутка прыйдзе да нас.
Цуды ў сэрцы трымай,
Тады зменіцца час

Як не зменіцца люд -
Ведай ты ўсе адно:
Тут што цуд, што прысуд -
Мастака палатно

Ты на тым палатне
Сам сабе Мікалай.
Хочаш – праўда ў віне,
Хочаш – бэзавы рай.

Самапісны герой:
Хоць кірза, хоць атлас.
Галерыст над сабой
Кожны з нас, кожны з нас…

**Каляда**

Даў Бог нам шанцаў,
Імя нам – еднасць.
Унія паганцу -
Як брат на вечнасць!

**Узяцце Парыжу**

Я танчу мамбу
Ў блакітным трыко,
Палескі мне мост -
Трыумфальнаю аркай.

Пяю дыфірамбы
Нудот і гаркот.
Прыйшоў Дзед Мароз
І спытаў на запалкі.

“Таварышч, эх нам бы
Адбіць гэты дзот…
У атаку! Наўпрост!” -
Працягнуў мне Кадарку.

Яго я не ганьбіў
Відаць – патрыёт!
І з рыльца, пад тост
Нас парвала ў кавалкі.



МАША БАДЗЕЙ

Звычайная дзяўчынка з Ваўкавыска. Займаецца танцамі і наведвае музычную школу. У будучыні жадае стаць журналістам. Улюбёны пісьменнік - Уладзімір Караткевіч.

***

Усё занадта проста, вельмі сумна.
Бы ў чорна-белым сне жывем бяздумна.
У коле верцімся, бяжым, спяшаемся.
І ў гэтым самі мы сабе не падабаемся

Але што зробіш, гэта час такі, бясспрэчна,
Навошта думаць, што усё так недарэчна.
Жыццё кароткае, лягчэй не азірацца,
І час вярнуць не трэба намагацца.

***

Прайшоў дождж, ціхі сум ў наваколлі...
Нада мною яркі блакіт.
Усё добра, але ўжо ніколі...
І ужо замест сэрца граніт.

Не хацець. І не бачыць, не ведаць.
І ўсё роўна - ужо не баліць...
І хавацца у мроях, не думаць
(Нeяк сумна робіцца жыць).

Трэба жыць. Падаць і падымацца
І не чуць шэпту жоўтага лісця,
Развучыцца у сонцы купацца,
Не знаходзіць у восені выйсця.

Але гэта наўрад ці магчыма -
Адысці і не спадзявацца,
Ў свет глядзець чужымі вачыма,
Абыякавым быць, не спрачацца...

***

Час заўжды добры, ён заўжды цікавы.
Ён проста розны : шэры і яскравы.
Праз столькі год ён стане незвычайным,
Яго палічуць смешным і адчайным.

А зараз мы жывем, і мы яго ствараем.
Губляем штосьці, нешта набываем.
Хто жыве так, як хоча. Хто – як можа
(Не спадзяецца, што наогул пераможа).

А шчасце ў тым, каб верыць і кахаць,
Ісці наперад і свой шлях шукаць,
Стварыць сучасны свет і быць упартым.
Паверыць проста, што гэта таго варта…

# жаночы погляд

Новы артыкул даўся мне нялёгка. Не было галоўнага - тэмы. Занадта шмат адбылося за апошнія два месяцы. Я наладзіла адносіны з усімі сваімі былымі мужчынамі. З усімі, акрамя Мудазвона. Глядзіш на яго штодня - ўзнікае жаданне ўвесь час мець пры сабе папяровы пакуначак, каб лёгка спраўляцца з прыступамі ванітаў. Але не будзем пра сумнае, бо трэба пра надзённае…

Дапамога прыходзіць неспадзявана. Калі ўжо нічога не чакаеш і ні на што не спадзяешся. Дапамога прыходзіць ад тых, на якіх не тое што б не разлічваў, а наогул, даўным-даўно забыўся. Стала свяціцца дабрынёй. Захварэл на ёгу. Пачала вязаць і адмовілася ад сэксу. Проста перагледзела сваё стаўленне да свету, жыцця, якім жыву, да людзей, якія знаходзяцца побач. Я перастала сябе разменьваць на аднадзённых палюбоўнікаў і дробных сошак. Я стала жыць для сябе, я зноў навучылася марыць. Я паверыла ў цуд.

Новы год хутка… Чакаю снегу і паху цытрынавай коркі. Хочацца перамен і пастаянства. Шуму і цішыні. Яркага святла і цемры, якая давіць на цябе сваёй пустэчай.. Цяпер і ніколі. Заблыталася? Не. Здабыла сэнс. Спасцігла сваю сутнасць, вызначыла мэты, расставіла прыярытэты, стала вольнай. Я стала "пустой бутэлькай", бо гэта так выдатна - напаўняць сябе нанова новымі адчуваннямі, знаёмствамі, успамінамі…

Спыніцеся. Падумайце пра сябе. Перастаньце ўдзельнічаць у гэтай гонцы на выжыванне - ўсё адно прайграеце. Няма нікога ў гэтым свеце даражэй і важней нас саміх. Гэта не эгаізм. Гэта самаўдасканаленне і самапазнанне. Паляпшаючы і ўвесь час мадэрнізуючы сябе, мы знаходзім гармонію. А яна, у сваю чаргу, напаўняе нашу душу і свядомасць каханнем да свету і да людзей, што побач з вамі. Беражыце сябе і памятайце: ЛЮБОВІ ВАРТАЯ ТОЛЬКІ МАМА… а ўсё астатняе - пена.



* * *

Сёння ехала дахаты ў аўтобусе, глядзела праз шкло на рыхлы снег, думала пра сваё, марыла. А ён стаяў побач і дакранаўся рукавом свайго паліто да маёй рукі. Ад яго прыемна пахла і веяла чымсьці хатнім, такім цёплым і шчырым. Светлафор. Аўтобус рэзка тармозіць. Хлопец ніякавата абапіраецца на мяне і ціха кажа: "Прабачце". Адказваю, што нічога страшнага, а сама думаю: "Прыцісніся да мяне яшчэ раз". Адзінота накрывае з галавой. Па начах плачу часам – сумую па тату. Днём усміхаюся - людзі любяць ідыётаў. Худнею, лянуюся, вечна ў пошуку, вечна адна. Мы самі ствараем ідэалы, самі расчароўваемся ў іх, кусаем локці і клянем белы свет. Нехта завышае планкі, нехта ператтвараецца ў вечнага нэндзу, хтосці шукае прыгоды. Але мы не вінаватыя, мы жывем, вучымся, кахаем і ненавідзім.

Гэта не дрэнна - рабіць памылкі, дрэнна сядзець на сваім азадку ўсё жыццё і нічога не рабіць. Трэба спрабаваць чагосьці дасягнуць, а не спадзявацца на лёс. Мудрасць прыходзіць з гадамі. Раней я часцяком уяўляла, як уніз лячу з даху, як нада мной схіляюцца лекары хуткай дапамогі і сумна адводзяць вочы: "Яе больш няма з намі". Зараз жа, перааасэнсаваўшы ўсе свае ўчынкі і разважанні, я вырашыла абавязкова жыць да глыбокай старасці, акружаная клапатлівымі дзецьмі і ўнукамі. Мае дзеці атрымаюць усё: і каханне, і ласку, і разуменне, і клопат. Яны ні ў чым не будуць мець патрэбы. Дзяцей яшчэ няма, а я ўжо люблю іх.

Часам я стамляюся ад жыцця, рукі апускаюцца, вочы на мокрым месцы, на ўсмешку можна забыцца. Тады я бяру стары фотаальбом і пачынаю ўспамінаць мінулае. З кожным здымкам злучана велізарная колькасць успамінаў. Фатаграфіі - гэта не толькі яркія малюначкі з нацягнутымі ўсмешкамі пад слова "сыр", гэта асобныя кароткія гісторыі, часам прыемныя, часам - не, але, тым не менш, яны існуюць. З іх сплятаецца наша мінулае і фармуецца будучыня.

Ведаеш, каб адчуць шчасце, трэба навучыцца пакутаваць. Ёсць адна простая мудрасць: ніколі не сустракайся з чалавекам толькі таму, што баішся адзіноты. Раней я павар'яцку яго баялася, а зараз пакахала... У свеце і жыцці ўсё вяртаецца на кругі свае: надзеі змяняюцца расчараваннямі, вера - роспаччу, захапленне - болем. Грэх - памёр. Праўда - знікла. Ісціна - ахрыпла. Сумленнасць памірае з голаду. Пакорнасць - у гарачцы. Шчырасць - забіта. Справядлівасць - выпарылася. Цярпенне - засталося адно, і тое хутка лопне. Каханне - як смерць. Чалавек губляецца, аддаецца. Разумееш, ён нібы гіне, але не памірае. Ён перараджаецца для новага жыцця. Каханне - гэта досвед смерці і ўваскрашэння. Каханне спазнаецца толькі ў каханні.

Віншую ўсіх жанчын з надыходзячым Новым годам. Я жадаю, каб вашыя самыя запаветныя жаданні выконваліся, каб вы кахалі і былі каханымі.

З павагай, ваш аўтар

**Вікторыя Хадасевіч.**

# Гомельскія карані Майкла Дугласа



Калі атрымліваеш “замову” на падобную тэму, на думку адразу прыходзяць артыкулы з шэрагу«жоўтай прэсы». Неяк слаба верылася ў тое, што вядомы амерыканскі акцёр мае нейкае дачыненне да Беларусі ў цэлым і да Гомельшчыны ў прыватнасці. Як вядома, калі жадаеш пра нешта даведацца, зайдзі ў “Вікіпедыю” ці ў “Google” (ну, ці хто якому пашукавіку аддае перавагу). Вікіпедыя адказала:

“…Майкл Дуглас (нар. 25 верасня 1944, Нью-Брансуік, штат Нью-Джэрсі, ЗША) — амерыканскі кінаакцёр і прадзюсар, уладальнік дзвюх прэмій «Оскар» (у 1975 як прадзюсар фільма «Пралятаючы над гняздом зязюлі» і ў 1987 году як акцёр за галоўную ролю ў фільме «Уол-стрыт»). Вядомасць акцёр набыў пасля здымак у тэлесерыяле «Вуліцы Сан-Францыска» (1972—1976)”.

Не густа і не дае адказу на галоўнае пытанне нашага аповеду. Не, не тое, на якое быў дадзены адказ у «Аўтастопам па галактыцы». Як следства, варыянт адказу «42» тут не падыходзіць. Значыць, трэба шукаць далей, каб дакапацца да самых каранёў, а яны глыбока знаходзяцца. І гэта зусім не азначае, што сам Майкл нарадзіўся і вырас у адным з раёнаў Гомеля. Наступны пункт – праверка бацькоў. Спосаб той жа: «Вікіпедыя». Да шчасця, пра яго бацькоў там таксама напісана. І атрыманыя звесткі апынуліся куды бліжэй да асноўнай тэмы:

“…Кірк Дуглас (сапраўднае імя Ісур Данііеловіч, пасля Дэмскі, нар. 9 снежня 1916) — амерыканскі акцёр. Яго доўгая і пасняховая кар'ера ў кіно была адзначана ганаровым «Оскарам» у 1996 году. Бацька цяпер вядомага акцёра — Майкла Дугласа.

Кірк Дуглас нарадзіўся пад імем Ісура Данііеловіча ў мястэчку Амстэрдам (штат Нью-Ёрк) чацвёртым дзіцём у беднай яўрэйскай сям'і. Яго бацькі Гершл Данііеловіч і Брайна Данііеловіч эмігравалі ў ЗША з Гомеля пасля жаніцьбы ў 1908 годзе. Ісур быў адзіным хлопчыкам, апроч яго ў сям'і раслі шэсць дзяўчынак. Бацькі пасля памянялі сямейнае прозвішча і амерыканізавалі імёны, стаўшы Хэры і Бертай Дэмскімі...»

Як пра падобную сітуацыю пісаў Люіс Кэрал, «усё дзівоснее і дзівосіцца». Апынулася, што на першы погляд нерэальная тэма значна бліжэй да праўды, чым магло здацца. Іншая справа, што кожны сам павінен вырашаць, кім лічыць таварыша Майкла: гамельчуком ці амерыканцам. Як-ніяк, дзед – гэта досыць далёкі сваяк. Асабліва калі ўлічваць яшчэ і той факт, што ўсё іх сямейства пражывае ў Амерыцы ўжо больш за стагоддзе. Якіх-небудзь указанняў на гэты конт сэнсу даваць няма. Людзі – істоты вольныя і маюць права самі прымаць рашэнні і мець уласнае меркаванне.

**Антон Кратаў**

## смак беларускай мовы





* * *

Мае суседзі слухаюць файную беларускую музыку. І чхаць, хочуць яны гэтага ці не!!!

* * *

Жанчыны павінны ведаць праўду!!! 90% мужоў сімулююць асалоду ад баршчу!

* * *

Адзін паляшук — хутар, два палешукі — аўтаномія, тры палешукі — аўтаномія з сепаратысцкім рэгіёнам.
Адзін крывіч — дудар, два крывічы — дударскі фэст, тры крывічы — буйны дударскі фэст.
Адзін літвін — шляхцюк, два літвіны — шляхецкі соймік, тры літвіны — шляхецкі соймік з пагромшчыкам.
Адзін беларус — партызан, два беларусы — партызанскі атрад, тры беларусы — партызанскі атрад са здраднікам.

* * *

-А як па-беларуску будзе "Вперёд"? -Наперад... -А "Назад"? -А ў беларусаў няма слова "Назад". Калі нам патрэбна - то мы разварочваемся і НАПЕРАД!!!

Толькі РАЗАМ
інфармацыйны бюлетэнь
№ 8 (13) лістапад-снежань 2011 г.

выходзіць штомесяц
распаўсюджваецца бясплатна

рэдактары:
Quo Vadis, Welbark

капіраванне дазваляецца
толькі ў вялікай колькасці

welbark@gmail.com
наклад: 299 асобнікаў